

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1995
ЧЭРВЕНЬ
29
ЧАЦВЕР
№ 95/ 1024
Цана
200 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

☐ ВЕЛЬМІ ПРЫЕМНАЯ НАВІНА

### І ЗНОЎ – АДКРЫЦЦЁ МЕТРО

**30 чэрвеня раніцай адбудзецца ўрачыстае адкрыццё дзвюх новых станцый метрапалітэна — «Пушкінскай» і «Маладзёжнай». Рэпартаж з гэтай падзеі мы надрукуем у бліжэйшым нумары газеты.**

☐ ОСТРЫЙ РАКУРС

### СБОРЩИКИ ДАНИ У ГАСТРОНОМА

Позавчера у местного гастронома по ул.Кижеватова ближе к вечеру произошел такой случай. Молодой, на вид 20-летний парень подошел к старушке, продающей под навесом возле магазина пучки укропа, и потребовал «дань» — 5000 рублей. Бабуля буквально опешила от подобной наглости и попыталась по мере сил приструнить его: «За что я, пенсионерка и инвалид, должна тебе, молодому, здоровому и явно нигде не работающему детине отдавать свои деньги?!» Однако «детина» упорно стоял на своем. Бабушка, не видя поддержки куда-то вдруг заспешивших очевидцев, только и могла, что расплакаться... В конце концов она собрала нехитрый свой товар и окончательно расстроенная ушла.

Однако на этом все не закончилось: «сборщик налогов» моментально подсел к другой бабке. И только после этого окружающие люди возмутились явным беспределом и решили заступиться за продавщиц (правда, взывать к совести рэкетира — занятие изначально пустое). А тут еще появился нетрезвый напарник вымогателя и заплетающимся языком заявил, что «платить должны все!» Данный инцидент удалось разрешить «мирным путем»...

Есть сведения, что подобные проявления рэкета народ наблюдал и возле Первомайского универсама, и у «Серебрянки». Резонный вопрос: где наша родная милиция, куда она смотрит? Или это не в ее компетенции? Впрочем, опасаюсь, что она эту проблему решит по-милицейски просто: разгонит бабуль с укропом — и вся недолга. Благо опыта в прошлом не занимать. А может, все же кто-то остановит произвол парней, у которых нет ничего святого?

**Александр ЗОТОВ.**

### НА ВОДЕ ПОЧТИ КАК НА ВОЙНЕ

Минские купальщики, кажется, могут быть спокойны. По заверениям специалистов городской санэпидемстанции, вода во всех предназначенных для купания водоемах города пока совершенно безопасна для здоровья. Содержание в ней кишечных палочек и других болезнетворных микробов не превышает допустимые нормы.

Хуже дела с безопасностью на воде. В мае и июне уже утонуло соответственно 10 и 17 человек. И это при том, что спасательные службы вытащили, считай, «с того света», еще 70 и 67 человек. Как пояснили в минском городском ОСВОДе, большинство утонувших купались в неохраняемых водоемах — Свислочи, Чижовском водохранилище (которое является, к тому же, техническим водоемом). Спасательные же станции — а их всего восемь — расположены в основных местах отдыха горожан. С начала года уже спасено 237 человек, из них 57 детей.

**Сергей АННЕНКОВ.**

### ПРАФСАЮЗЫ ПРАПАНОЎВАЮЦЬ ПЕРАМОВЫ

У Мінску адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, на якім разглядалася пытанне аб фактах масавай затрымкі выплаты заработку на прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах рэспублікі. Прыводзіліся, у прыватнасці, наступныя лічбы: па стану на 20 чэрвеня са студзеня (!) бягучага года не выплачана заработная плата ў 31 калгасе і саўгасе рэспублікі, з лютага і сакавіка — у 116 і 863 гаспадарках адпаведна. Два і больш месяцаў запазычанасць па выплаце зарплаты маюць звыш 40 прамысловых прадпрыемстваў з колькасцю працуючых каля 130 тысяч чалавек. Зыходзячы з дадзенай сітуацыі, Прэзідыум прыняў пастанову, у якой гаворыцца аб недапушчальнасці парушэння норм і абавязкаў Генеральнага, галіновага і рэгіянальных тарыфных пагадненняў, калектыўных дагавароў у частцы своечасовай выплаты заработку. Кабінету Міністраў прапанавана на працягу першай дэкады ліпеня распачаць перамовы з Федэрацыяй прафсаюзаў і рэспубліканскімі аб'яднаннямі наймальнікаў па пытаннях выканання Генеральнага пагаднення ў поўным аб'ёме. З пастановы Прэзідыума Савета ФПБ таксама вынікае, што ў выпадку далейшага абвастрэння становішча з выплатай заработку прафсаюзы прыступяць да падрыхтоўкі агульнарэспубліканскіх акцый пратэсту, якія, згодна з дзеючым заканадаўствам, плануюцца на верасень. Рашэнне аб арганізацыі акцый пратэсту прынята таксама ў працоўных калектывах, што ўваходзяць у Асацыяцыю незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі (АНППБ). «Касцяк» Асацыяцыі складаюць два буйнейшыя прамысловыя прафсаюзы — аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, а таксама радыёэлектроннай прамысловасці.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

### КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД ІДЗЕ Ў АДПАЧЫНАК

Аб гэтым паведаміў кіраўнік прэс-службы Канстытуцыйнага суда Алег Маскалёў. 9 суддзяў будуць знаходзіцца ў двухмесячным адпачынку з 17 ліпеня да 17 верасня. Натуральна, што ў гэты перыяд ніякія справы ў судзе разглядацца не будуць. Як адзначыў Алег Маскалёў, і ў перыяд, які застаецца да адпачынку, суд наўрад ці будзе разглядаць нейкія справы. Па яго словах, ні Вярхоўны Савет, ні іншыя органы і афіцыйныя асобы не спяшаюцца звяртацца ў Канстытуцыйны суд. Самі ж суддзі прынялі рашэнне не ўзбуджаць справы па ўласнай ініцыятыве, хаця маюць на гэта законнае права.

**Юрась ДУБІНА.**

### ПОДРУЖИМСЯ... ПАРТИЯМИ

В Стокгольме представитель Белорусской партии труда Н.Белановский встретился с секретарем по международным вопросам социал-демократической партии Швеции К.Фредриксоном.

В ходе переговоров обсуждались вопросы установления контактов между партиями, взаимодействия партий и профсоюзов, развития социал-демократического движения в Европе. Стороны проинформировали друг друга о складывающейся политической ситуации в Швеции и Беларуси.

Достигнута договоренность о продолжении и развитии контактов между Белорусской партией труда и социал-демократической партией Швеции.

**Николай ГЕРАСИМЕНКО.**

**КУРС ОБМЕНА наличной валюты в коммерческих банках на 29 июня 1995 г.**

| Наименование банка | Доллар США | | Немецкая марка | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | покупка | продажа | покупка | продажа | покупка | продажа |
| БЕЛАРУСБАНК | 11300* | 11500* | 8000* | 8250* | 2.00* | 2.50* |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гл. оп. упр.) | 11150* | 11600 | 7900* | 8450 | 2.00* | 2.5 |
| ФК "ВЕРОНИКА" *** | 11250* | 11500* | 8050* | 8500* | 2.38* | 2.47* |
| НАРОДНЫЙ БАНК | 11200* | 11470 | 7950* | 8220 | 2.33 | 2.44 |
| ПРИОРБАНК | 11250 | 11550 | 8000 | 8250 | 2.2 | 2.55 |
| СБЕРБАНК | 11050 | 11450 | 7600 | 8050 | 2 | 2.4 |
| ОЛИМП | 11250* | 11540* | 7862* | 8229* | 2.25* | 2.48 2.46** |
| Ф-л МИЛАВИЦА АКБ ДУКАТ | 11250* | 11650 | 7800 | 8250 | 2.1 | 2.5 |
| БЕЛБИЗНЕСБАНК (гор. дирекция) | 11250 | 11500 | 8000 | 8250 | 2.3 | 2.6 |
| "ИНТЕК" | 11450 | 11650 | 7800 | 8100 | 2.3 | 2.55 |
| ДУКАТ | информация на 9.50 не получена | | | | | |
| МинскКОМПЛЕКСБАНК | 11250 11340** | 11550 11600** | 8025 8089** | 8250 8300** | 2.38 | 2.62 |
| "ИНТЕРКОНТИНЕНТАЛЬ-СКВ" | инфомация на 9.50 не получена | | | | | |
| Ф-л НЕМИГА АКБ ДУКАТ | 11100* | 11500 | 7700* | 8150 | 2.20* | 2.5 |
| Филиал №1 АКБ ОЛИМП | 11250* | 11650* | 7900* | 8150* | 2.0* | 2.4* |
| БЕЛВНЕШЭКОНОМБАНК | 11250* | 11550 | 8110* | 8330 | 2.2 | 2.6 |
| БЕЛИНВЕСТБАНК | 11100 | 11500 | 7700 | 8300 | 2.1 | 2.55 |

■ * Возможна операция за наличный и безналичный расчет

■ ** Операция проводится только по безналичному расчету

■ В течение дня курсы могут меняться, курсы головного управления банков могут несущественно отличаться от курсов, установленных в обменных пунктах.

■ Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова".

| | | | |
|---|---|---|---|
| НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК (официальный курс для б\н расчетов) | 11500 | 8290.68 | 2.52 |

☐ КОРОТКО

На начало 1995 года в Беларуси действовало 30,3 тысячи торговых предприятий (магазинов и палаток), в том числе 23,5 тысячи магазинов торговой площадью 2543,4 тысячи квадратных метров и 10,6 тысячи предприятий общественного питания, которые одновременно могли обслужить 759,9 тысячи человек.

Доля магазинов с государственной формой собственности в общем их количестве составила 24,6% против 25,2% в 1993 году, магазинов потребительской кооперации — 64,7% (в 1993 году — 66,4), акционерных предприятий — 1,6% (0,2%).

По сравнению с 1993 годом число магазинов розничной торговли в стране увеличилось на 126 (на 0,5%), предприятий общественного питания — сократилось на 569 (на 5%), в том числе в потребительской кооперации — на 363 предприятия (на 6%). Количество акционерных предприятий и предприятий частной формы собственности увеличилось на 252.

***

5 июля в Минск прибудет гуманитарный груз от Красного Креста Германии.

Принимает немецкую благотворительную помощь белорусский фонд «Детство»; он же и поможет распределить два автофургона с одеждой, обувью и медикаментами. Планируется, что помощь получат детские отделения больницы Скорой помощи и больницы в Новинках. Остальная часть груза будет направлена в Бегомльскую школу-интернат для детей-сирот..

У МІНГАРВЫКАНКАМЕ

## ФІРМЕ — ГОНАР, ПАКУПНІКУ — РАДАСЦЬ

Тамара МАРКІНА, «ДВ».

**Менавіта з-за гэтага, а таксама каб больш вывучыць попыт на тавар, і пачалі колькі гадоў таму адкрываць фірменныя магазіны прадпрыемствы сталіцы, рэспублікі ў Мінску. Сёння фірменны гандаль карыстаецца павышанай увагай мінчан і гасцей сталіцы. І недарма. Усе 78 магазінаў працуюць лепш, чым іншыя гандлёвыя прадпрыемствы.**

Але і тут маюцца праблемы і пытанні. Першае і галоўнае пакінуў адкрытым на апошнім пасяджэнні Мінгарвыканкама намеснік старшыні выканкама М.А.Лях: «Што сёння ёсць фірменны гандаль — калектыўны эгаізм ці праца на пакупніка?» А ўзнікла яно таму, што нярэдка частка затрат па гандлю ўключалася ў сабекошт асноўнай вытворчасці, а значыцца, спрацоўвала на павелічэнне адпускной цаны прадукцыі. Між тым ён жа, Мікалай Аляксандравіч, зазначыў, што фірменны гандаль — гэта вельмі актуальная і патрэбная гораду галіна. Таму прыйдзецца яго развіваць і многае мяняць.

Членамі выканкама былі абмеркаваны вынікі праверкі шэрагу фірменных магазінаў, у ходзе якой павышанай увагай карысталіся павелічэнне іх тавараабароту, аднаўленне, захаванне асартыменту, павышэнне якасці тавару і культуры абслугоўвання.

Добрыя словы былі сказаны ў адрас фірменнага магазіна «Кавалачак» мясаперапрацоўчага завода, дзе ў час праверкі было ажно 14 паўфабрыкатаў, 15 назваў каўбас і вяндліны. І гэта добра, што тут заўсёды такі шырокі выбар. Добра адзначаны і магазін «Каравай» Мінхлебпрома, салон-магазін швейнага магазіна «Элема». Апошні часта праводзіць выставы-продажы паліто і іншай прадукцыі, па выніках якіх мяняюцца задачы вытворчасці ў залежнасці ад попыту пакупнікоў. Менавіта так і павінны працаваць фірменныя магазіны.

Вялікай увагай гараджан карыстаюцца магазіны 1-й Мінскай птушкафабрыкі «Белыя росы». Яйкі і птушка тут ідуць нарасхват. Але ўсё ж адладжана ў арганізацыі гандлю птушкай не ўсё. Ёсць у членаў выканкама прэтэнзіі да культуры абслугоўвання некаторых крам «Белыя росы», да асартыменту іх прадукцыі.

Не апраўдвае свайго фірменнага імя тэхна-гандлёвы дом «БЕЛВАР», дзе не надта многа ўласных тавараў. На момант праверкі ў продажы адсутнічалі электрапрасы, электракіпяцільнікі і іншыя вырабы «БЕЛВАРА». Гэты магазін больш увагі стаў надаваць швейным, трыкатажным таварам — усяму таму, што выпускаецца не на «БЕЛВАРЫ». Дык, мусіць, магазіну ўжо час змяніць свой статус фірменнага?..

Слушную прапанову ўнёс старшыня Заводскага выканкама Вячаслаў Станіслававіч Юхновіч. Для большай самастойнасці ў прыняцці рашэнняў, аператыўнасці, павышэння адказнасці фірменных магазінаў ён прапанаваў дазволіць ім мець асобныя рахункі.

У рэшце рэшт Мінгарвыканкамам было прынята рашэнне, накіраванае на паляпшэнне фірменнага гандлю сталіцы, запаўненне прылаўкаў поўным асартыментам тавараў, якія выпускаюць прадпрыемствы — уладальнікі магазінаў. Гарадскія ўлады абавязалі фірменныя магазіны больш мэтава вывучаць попыт на свой тавар. Гэта дазволіць рабіць яго сучасным і якасным.

**Асаблівая ўвага была звернута на рэжым працы магазінаў. Нехарчовыя крамы, акрамя тых, якія гандлююць будматэрыяламі, павінны пачынаць працаваць не пазней 10.00 раніцы, а заканчваць не раней 19.00. У суботу — таксама працаваць да 18.00. Магазіны, якія гандлююць будаўнічымі матэрыяламі, павінны адкрывацца з 9.00 раніцы і закрывацца не раней 18.00, а ў суботу — не раней 17.00. Харчовыя і агароднінныя фірменныя магазіны таксама павінны прытрымлівацца графіка тых гарадскіх крам, што гандлююць харчовым таварам, — з 9.00 раніцы і да 20.00 вечара.**

Паколькі новыя мікрараёны абдзеленыя фірменным гандлем, у бліжэйшым будучым для яго будуць выдзяляцца зямельныя ўчасткі пад будаўніцтва.

...А яшчэ фірменны гандаль — гэта вялікая палітыка мясцовага прызначэння. Гарадскія ўлады падчас абмеркавання рашэння па дзейнасці фірменных крам вельмі далікатна імкнуліся размаўляць з кіраўнікамі прадпрыемстваў, асабліва тымі, якія, па сутнасці, з'яўляюцца манапалістамі. Былі прыняты да ўвагі скаргі дырэктара Мінскага фарфоравага завода Васіля Пірагоўскага, які абвінавачваў магазіны сталіцы ў затрымцы аплаты за ўжо прададзеную прадукцыю, завышаных накрутках на сервізы мінскага завода, з-за чаго прадукцыя завода становіцца неканкурэнтаздольнай на ўласным рынку. Як зазначыў Васіль Васільевіч, з-за гэтай нядобрасумленнасці іх прадпрыемства можа пайсці на больш прывабны расійскі рынак, дзе яго чакаюць не дачакаюцца. А мы будзем купляць дарагія талеркі і кубкі не лепшага гатунку, прывезеныя з-за мяжы.

Удасканаленне дзейнасці фірменных магазінаў сталіцы, наладжванне добрых адносін прадпрыемстваў-уладальнікаў з гарадскімі ўладамі — своечасовая справа. Пара фірменным крамам падняцца над уласным не надта высокім узроўнем абслугоўвання пакупнікоў, вывучэннем іх попыту і, у рэшце рэшт, больш актыўна працаваць на павышэнне асартыменту і якасці прадукцыі, якая прапаноўваецца для фірменнага і не фірменнага гандлю.

## ПРАФСАЮЗЫ ЗАНЕПАКОЕНЫ: НА САНАТОРЫІ ГРОШАЙ НЯМА

Юрый ХАЎРОЎ.

Катастрафічнае становішча склалася з фінансаваннем летняга адпачынку і аздараўлення нашых грамадзян і іх дзяцей. Гэты факт канстатаваў на нядаўняй прэс-канферэнцыі старшыня Савета аб'яднання галіновых прафсаюзаў Мінскай вобласці М.І.Хаванскі.

Сродкі на такія мерапрыемствы, згодна з Генеральным пагадненнем паміж прафсаюзамі і ўрадам, павінен быў пералічыць Фонд сацыяльнай абароны. Але гэта не выконваецца, і запазычанасць Фонду склала больш за 100 млрд. рублёў.

Ужо з красавіка санаторыі і прафілакторыі не атрымліваюць грошы, якіх і раней не хапала. Зараз з 35 такіх аб'ектаў рэальна працуюць 7, ды і то дзякуючы Дзяржкамчарнобылю. У выніку, калі ў 1992 годзе на тысячу працоўных было 37 пуцёвак, дык у бягучым — толькі 17. Трэба дадаць, што беларускія прафілактычныя ўстановы не маюць спецыялізацыі па некаторых захворваннях, а адправіць людзей палепшыць сваё здароўе за межы рэспублікі ўвогуле немагчыма.

Не лепей справы і з дзіцячым адпачынкам. Пуцёўка ў лагер зараз каштуе ад 1100 тысяч да 1700 тысяч рублёў. Сацстрах кампенсаваў прыблізна 25% гэтай сумы, хоць планавалася 90%. Ёсць ужо выпадкі, калі бацькам прыйшлося заплаціць больш чым дзесятую частку кошту, як звычайна. Але гэта не вырашэнне праблемы, бо большасць сем'яў не мае такой магчымасці. У мінулым годзе 2 мільярды вылучыў гарвыканкам, сёлета разлічваць на яго дапамогу не прыходзіцца — усё, што магчыма было, ім ужо зроблена.

Такім чынам, нягледзячы на «планаваных» 115 тысяч дзяцей, у першую змену ў летнія лагеры трапіла толькі 16 тысяч. Што датычыцца другой змены, то сродкаў не хапае і на 11 тысяч школьнікаў.

Па словах старшыні Савета аб'яднання галіновых прафсаюзаў Мінскай вобласці М.І.Хаванскага, у такім становішчы няма віны прафесійных саюзаў. Савет ФПБ лічыць, што рашэнне, прынятае ў мінулым годзе, калі прафсаюзы страцілі магчымасць непасрэдна распараджацца страхавымі адлічэннямі, было памылковым. Не маючы ў сваім бюджэце даходнай часткі, ФПБ трапіў у залежнасць ад Фонду сацыяльнай абароны, а запазычанасць федэрацыі не перавышае затрыманых фондам сродкаў.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## ПРЭЗІДЭНТУ ПА-РАНЕЙШАМУ ВЕРАЦЬ. ПЕРАВАЖНА, ПЕНСІЯНЕРЫ

**Што ні кажыце, а час ляціць імкліва. Здаецца, зусім нядаўна мы ўпершыню ўсенародна абіралі Прэзідэнта. А днямі з тых падзей спаўняецца ўжо год. Год, які прынёс перманентны рост цэн, «вертыкаль», «белыя плямы» газет, беларуска-расійскія пагадненні, стабілізацыю курса «зайчыка», красавіцкі інцыдэнт з апазіцыяй, майскі рэферэндум і шмат чаго іншага... Словам, успомніць ёсць што. Таму ўчора мы вырашылі правесці маленькае сацыялагічнае даследаванне на вуліцах сталіцы. Рэспандэнтам прапаноўвалася адказаць на адно пытанне: «ЯК ВЫ АЦЭНЬВАЕЦЕ ПЕРШЫ ГОД ДЗЕЙНАСЦІ НАШАГА ПРЭЗІДЭНТА?»**

**Вось што з гэтага атрымалася:**

**ВАСІЛЬ АНДРЭЕВІЧ ЛІСАВЫ, пенсіянер:**

— Честно говоря, в мои 75 лет мне уже все равно. Конечно, хотелось бы чего-то лучшего, но, видно, тут уж ничего не поделаешь.

**АРТУР, часова беспрацоўны:**

— Лукашенко не нравится мне как личность, а потому лично я его действия не одобряю.

**РУСЛАН СІЛЮК, студэнт Мінскага радыётэхнічнага каледжа:**

— Я думаю, что если Лукашенко что-то и сможет сделать, так это только превратить нашу маленькую республику в большой колхоз.

**ЗІНАІДА ЦІМАФЕЕЎНА БАНДАРЭЎСКАЯ, пенсіянерка:**

— Я вижу, что Лукашенко отдает все силы, всего себя для блага нашей республики, поэтому его действия во всех отношениях оцениваю положительно. И вообще, Президент у нас замечательный человек.

**ЛЮДМІЛА САХАРАВА, служачая, 40 гадоў:**

— Надзеі на паляпшэнне пасля абрання Аляксандра Лукашэнкі былі, але, кажучы шчыра, цяпер яны зніклі. Лягчэй не стала. Гадуем з мужам дваіх дзяцей, дачка-студэнтка, даводзіцца цяжка. Здзіўляе, чаму Прэзідэнт не змагаецца, як абяцаў, са злачыннасцю? Баюся, як і раней, выпусціць дзяцей на вуліцу, чытаю крымінальныя зводкі — мароз па скуры... Такое ўражанне, што гэта нікога не хвалюе, і нас ніхто не здольны абараніць.

**РЫГОР КІРЫЛАВІЧ ШУМАНАЎ, пенсіянер:**

— Конечно, Президент мог бы сделать намного больше, но ему постоянно мешают бывшие руководители республики.

**ЛЮДМІЛА БАРЫСАЎНА ЯФІМАВА, галоўны дырыжор капэлы імя Р.Шырмы:**

— Лично у меня от деятельности Президента нет ни хороших, ни плохих впечатлений. Изменилось ли что-нибудь за этот год? Я считаю, что если что-то в Беларуси и меняется, то только в противоположную сторону от того, чего бы мы все желали.

**КАНСТАНЦІН, «проста беспрацоўны»:**

— Наш Президент не выполнил своих предвыборных обещаний, а поэтому я не воспринимаю его серьезно.

**ІНА ЯРМОЛАВА, жыхарка горада Рэчыца:**

— Калі Прэзідэнт лічыць, што, змяніўшы сімволіку, ён правёў нейкія карэнныя рэформы, ён памыляецца. Мы аднолькава жылі і пры новай, і пры старой сімволіцы, але тады, прынамсі, хоць разумелі, што азначаюць тыя герб і сцяг. Так што я Лукашэнкам расчаравана, і, упэўнена, расчаравана не толькі я адна.

**ВЕРАНІКА СЦЯПАНАЎНА ЗУЕВА, загадчык бібліятэкі Бараўлянскай гімназіі:**

— Не скрою, летом прошлого года мы поверили Александру Лукашенко, но щедро раздаваемые им обещания до сих пор не сбылись. Поэтому я считаю, что сегодня народ уже не верит не только Президенту, но и власти вообще, что, в принципе, и показали проходившие недавно выборы в Советы.

**БАРЫС МЕЛІХАН, наладчык паліграфкамбіната:**

— У маім разуменні Прэзідэнт — гэта тое ж самае, што раней сакратар ЦК. А ўсе нашы сакратары рабілі адно і тое ж: атрымлівалі ўладу і адразу ж забываліся на простых смертных. Мне здаецца, Аляксандр Рыгоравіч — не выключэнне.

***

**Карацей кажучы, атрымліваецца класічна: колькі людзей — столькі і думак. Разам з тым, зрабіць пэўныя высновы можна нават з гэтага больш чым павярхоўнага апытання. Так, відавочна: старэйшае пакаленне па-ранейшаму шчыра верыць Прэзідэнту, маладзейшае — адносіцца да кіраўніка дзяржавы скептычна. Адначасова людзі сярэдняга ўзросту, як правіла, спасылаючыся на ўласную абыякавасць да палітыкі, увогуле адмаўляліся адказваць на якія-небудзь пытанні.**

Зрэшты, гэта таксама паказчык.

**Сяргей ГРЫБ, «ДВ».**

ЯРМАРКИ

## СО ВСЕХ СТОРОН СВЕТА

Тамара МАРКИНА.

С 5 по 8 июля в Республиканском выставочном центре по ул.Я.Купалы, 27 пройдет 10-я Международная универсальная ярмарка «Восток — Запад — Север — Юг». Ее организатор — Центр поддержки предпринимательства «Центр — XXI век».

На ярмарке будут широко представлены товары российского производства: из Тольятти — зимняя и демисезонная обувь; из Сергиева Посада — автомагнитолы, бытовые компьютеры, противоугонные автосистемы; корпорация «ТВЭЛ» из Санкт-Петербурга предложит вниманию покупателей технологии по изоляции труб. Будут представлены на экспозиции шампуни, средства по уходу за кожей, лечебно-профилактическая косметика, полиэтиленовые пакеты, хлопчатобумажные ткани, жаккардовые одеяла и ткани для мебели, разработки изделий для улучшения качества электропитания компьютеров, оргтехники, бытовой техники.

Представят свою продукцию также фирмы из Вильнюса, Каунаса (Литва), Тарту (Эстония), Польши. Вниманию посетителей предложат свои экспозиции белорусские заводы: электромеханический — из Бреста; «Спецавтоматика», электромеханический, «Белавтогаз» — из Минска.

ТАБЛО ГАИ

## «ВЗРОСЛЫЕ» ШАЛОСТИ И «ДЕТСКИЕ» ПРОБЛЕМЫ

Владимир ТРОФИМЕНКО, старший инспектор ГАИ УВД Мингорисполкома.

**На прошедшей неделе произошло 25 тяжелейших дорожно-транспортных происшествий. Трагически оборвалась жизнь ребенка, 24 человека в больницах, пятеро из них — дети.**

16 июня на улице Я.Коласа водитель «Минскавтотранса» наехал на 13-летнего ученика СШ №73. 19 июня попали в травматологические отделения клиник еще трое детей, сбитых автотранспортом в разных точках города. они пытались перейти дорогу не по переходу. Это ученики СШ №№185 и 35, а также гостья из города Смолевичи.

17 июня выехал на мотоцикле, не имея при этом водительского удостоверения, семиклассник СШ №178. На улице Литературной он врезался в «Запорожец»; его водитель, токарь МЭМЗа, также был без прав. Покалеченный мотоциклист — в Детском хирургическом центре.

Ужасная трагедия произошла 22 июня на улице Одинцова. Опять же, захотев поездить без разрешающего документа, молодой человек взял с ведома отца «АУДИ-100» В57-26ТМ. В результате этой поездки во дворе дома №2 попала под машину восьмилетняя девочка. Водитель не остался на месте происшествия, не оказал девочке помощь, он попросту уехал. Даже своего отца он поначалу держал в неведении по поводу повреждений на автомобиле. Но малышка умерла. Чтобы установить истину, мы просим взрослых свидетелей происшедшего позвонить следователям по телефону 25-16-91 или 25-32-39.

Безответственность и нежелание заниматься воспитанием подростков, излишняя самоуверенность за рулем, ухарство и бахвальство на дорогах становятся причинами таких трагедий. Словосочетание «школьные каникулы» должно удесятерять внимание к подростку, будь то тихая площадка в уютном дворике или шумная магистраль города. Ребенок — везде ребенок. И в ответе за него всегда мы — взрослые.

А вот свежие примеры «шалостей» взрослых. 22 июня один из трактористов занимался уборкой мусора на строительстве новой поликлиники в Кунцевщине. Поздно вечером накануне он выпил, а утром добавил пива — и за работу. Мирно звонившая по телефону-автомату женщина и не подозревала, что в эти мгновения у трактора откажут тормоза. А тракторист не успел, как говорится, и глазом моргнуть, как непослушная машина покатилась на тротуар. Зацепленная ковшом крыша таксофона упала на голову женщины, и та с черепно-мозговой травмой оказалась в больнице.

Следствию предстоит разобраться и в других ситуациях. К примеру, два гражданина Литвы 16 июня раскатывали на своей машине по городу с револьвером и крупной суммой американской валюты. Еще случай. 21 июня задержан и доставлен в РОВД водитель «Опеля», он так и не смог толком объяснить, откуда у него 140 литров спирта в багажнике машины. А сотрудники ГАИ Ленинского района задержали вымогателя 1200 долларов, и скрыться ему в толпе Червенского рынка не удалось. В тот же день несколько часов спустя командир взвода этого же подразделения остановил автомашину, при досмотре которой у одного из пассажиров обнаружено около 250 граммов маковой соломки.

**Минский городской исполнительный комитет объявляет конкурс среди юридических лиц, зарегистрированных на территории г.Минска, и физических лиц, постоянно проживающих на территории г.Минска, по предоставлению преимущественных прав на проведение капитального ремонта (реконструкции) жилых домов с последующим отчуждением, расположенных по следующим адресам:**

1. ул.Мозырская, 35а;
2. ул.Раковская, 20/15;
3. ул.Полевая, 22;
4. ул.Харьковская, 8;
5. 8-ой пер.Орловский, 8;
6. ул.Белорусская, 37.

**Телефон для справок: 27-53-11.**

# ПЕРЕЧЕНЬ
## ОБЪЕКТОВ КОММУНАЛЬНОЙ СОБСТВЕННОСТИ г.МИНСКА, ПЛАНИРУЕМЫХ К ПРИВАТИЗАЦИИ В 1995 ГОДУ

**Как сообщал «Добры вечар», недавно на очередном заседании Мингорисполкома был утвержден список предприятий коммунальной собственности, которые приватизируются в текущем, 1995 году. Представляем вашему вниманию названия и адреса этих объектов.**

### РАЗДЕЛ 1. ПРОДОВОЛЬСТВЕННАЯ ТОРГОВЛЯ

1. Арендное торговое предприятие «Аппетит», ул.Аранская, 9.
2. Арендное предприятие «Тракторозаводской», ул.Буденного, 16а.
3. Государственное торговое предприятие «Волгоград», пр.Правды, 30а.
4. Арендное предприятие «Масюковщина», ул.Глебки, 120.
5. Арендное предприятие «Магазин Прадвесне», ул.Чкалова, 36.
6. Арендное торгово-производственное предприятие «Универсам Первомайский», ул.Руссиянова, 13а.
7. Арендное предприятие «Торговая фирма «Невель», ул.Якубова, 14а.
8. Арендное торговое предприятие «Гастроном Автозаводской», ул.Енисейская, 1.
9. Арендное торговое предприятие «Белскор», ул.Карбышева, 13.
10. Арендное торговое предприятие «Прыпутнік», пр.Рокоссовского, 1.
11. Государственное предприятие «Столичный», пр.Скорины, 52.
12. Государственное предприятие «Шчотаўка», ул.Крупской, 61.
13. Государственное предприятие магазин № 20 Заводского района, ул.Котовского, 56.
14. Государственное предприятие ун. «Заводской», ул.Нестерова, 60а.
15. Государственное предприятие ун. «Байкальский», ул.Ангарская, 36.
16. Государственное предприятие ун. «Охотский», ул.Охотская, 135.
17. Государственное предприятие ун. «Особый», ул.Маяковского, 16.
18. Государственное предприятие ун. «Чкаловский», ул.Воронянского, 15.
19. Государственное предприятие ун. «Эстраган», ул.Жуковского, 3.
20. Государственное предприятие ун. «Могилевский», ул.Могилевская, 12.
21. Государственное предприятие «Тоскана», ул.Калиновского, 8а.
22. Государственное предприятие «Бел-Ванс», ул.Карбышева, 55.
23. Государственное предприятие «Продвильнюс», ул.Калиновского, 8а.
24. Государственное предприятие «Шепичи», пр.Рокоссовского, 33.
25. Государственное предприятие «Свислочь», ул.Якубова, 56.
26. Арендное предприятие «Прод-Алекс», пр.Скорины, 143.

### РАЗДЕЛ 2. ПРОМТОВАРНАЯ ТОРГОВЛЯ

1. Арендное торговое предприятие «Касмея», ул.Я.Мавра, 33а.
2. Арендное предприятие «Гаспадарчая лаўка», ул.Нестерова, 94.
3. Арендное предприятие Дом торговли «Свислочь-92», ул.Сторожевская, 8.
4. Арендное производственно-торговое предприятие «Торгстройматериалы», ул.Селицкого.
5. Арендное предприятие «Невеста», пр.Скорины, 105.
6. Арендное торговое предприятие «У палёт», ул.Чкалова, 35/1.
7. Государственное предприятие «Вильнюс», ул.Калиновского, 55.
8. Государственное предприятие «Юнторг», ул.Пулихова, 21.
9. Государственное предприятие «Счастье», пр.Скорины, 153.
10. Государственное предприятие «Восток», ул.Калиновского, 66.
11. Государственное предприятие ГУМ, пр.Скорины, 21.
12. Малое арендное предприятие «Узоры», ул.Воронянского, 13/3.

### РАЗДЕЛ 3. ОБЩЕСТВЕННОЕ ПИТАНИЕ

1. Арендное предприятие «Кафе Весна», пр.Скорины, 18.
2. Торгово-производственная фирма «Ажына», Бетонный проезд, 21.
3. Государственное предприятие Столовая № 180, ул.Кирова, 19.
4. Арендное предприятие «Ресторан Беларусь», ул.Сторожевская, 15а.
5. Государственное торговое предприятие столовая № 102, ул.Ташкентская, 28.
6. Государственное торговое предприятие «Ладья», пр.Рокоссовского, 166.
7. Столовая № 7 Комбината общественного питания Фрунзенского района, ул.Харьковская, 74.
8. Кафе «Аленький цветочек» Комбината общественного питания Фрунзенского района пр.Пушкина, 52.

### РАЗДЕЛ 4. ОБЪЕКТЫ, ОТНОСЯЩИЕСЯ К СТРОИТЕЛЬНОМУ КОМПЛЕКСУ

1. Арендное предприятие «Минскжелезобетон» (при условии согласования с Управлением по антимонопольной политике и развитию предпринимательства), ул.Кабушкина, 66а.
2. Арендное предприятие «Стройтрест № 7», ул.Варвашени, 16.
3. Асфальтобетонный завод (при условии согласования с Управлением по антимонопольной политике и развитию предпринимательства), Промузел Шабаны.
4. Арендное предприятие Стройтрест № 35, ул.Я.Коласа, 38.
5. Минское арендное ремонтно-строительное предприятие «Минскремстрой», ул.Интернациональная, 5.

### РАЗДЕЛ 5. ОБЪЕКТЫ, ОТНОСЯЩИЕСЯ К ВЕДЕНИЮ УПРАВЛЕНИЯ СЕЛЬСКОГО ХОЗЯЙСТВА И ПРОДОВОЛЬСТВИЯ

1. Арендное оптово-розничное торговое предприятие «Кальвиль», б.Шевченко, 2.
2. Арендно-оптовый плодоовощной магазин «Ягодка», ул.Кнорина, 6б.
3. Арендное оптово-розничное предприятие «Изюминка», ул.Жуковского, 3.
4. Арендный оптово-розничный плодоовощной магазин «Оазис», ул.Никифорова, 2.
5. Арендно-торговое предприятие «Нектарин», ул.Богдановича, 70.
6. Арендный оптово-розничный плодоовощной магазин «Жимолость», ул.Притыцкого, 4а.
7. Арендное торгово-закупочное предприятие «Верасень», ул.Герасименко, 30.
8. Арендное торгово-закупочное предприятие «Соцветие», ул.Ангарская, 8.
9. Арендный оптово-розничный плодоовощной магазин. ул.Козлова, 14.
10. Арендный оптово-розничный плодоовощной магазин «Манго», ул.Филимонова, 4.
11. Арендный оптово-розничный плодоовощной магазин «Агрэст», ул.Филимонова, 2.
12. Арендный оптово-розничный плодоовощной магазин «Дары Молдовы», ул.Прилукская, 49.
13. Арендный оптово-розничный магазин «Трускалка», ул.Брестская, 68а.
14. Арендное предприятие Гормолзавод № 1, ул.Солтыса, 185а.
15. Арендное предприятие Гормолзавод № 2, пр.Партизанский, 10км.
16. Арендное предприятие Гормолзавод № 3, ул.Солтыса, 185.
17. Государственное предприятие Нарочанский завод напитков, Минская обл., Мядельский р-н, д.Нарочь, ул.Заводская, 58.
18. Минский мясоперерабатывающий завод, ул.Солтыса.
19. Минское производственное объединение мясной промышленности, ул.Казинца, 46.
20. Торгово-закупочное предприятие «Весна» (ТЗП «Весна»), пр-д Голодеда, 12.
21. Малое предприятие «Заготкомпроторг», ул.Гамарника, 16.
22. Специализированное автопредприятие (САП), Могилевское шоссе, 10 км.
23. Малое государственное предприятие «Плодоовощ», ул.Стебенева, 1.

### РАЗДЕЛ 6. ОБЪЕКТЫ БЫТОВОГО ОБСЛУЖИВАНИЯ

1. Прачечная № 31, ул.О.Кошевого, 13а.
2. Автобаза Управления бытового обслуживания, пер.Ольшевского, 8.
3. Малое арендное предприятие «Салон «Зачараванне», ул.Руссиянова, 11.

### РАЗДЕЛ 7. ПРЕДПРИЯТИЯ КОММУНАЛЬНОГО ОБСЛУЖИВАНИЯ

**Фрунзенский район**
1. Неработающий общественный туалет, ул.Берута.

**Заводской район**
2. Неработающий общественный туалет, ул.Крупской.

**Партизанский район**
3. Неработающий общественный туалет, ул.Пулихова.

**Центральный район**
4. Неработающий общественный туалет, ул.Каховская.

**Ленинский район**
5. Неработающий общественный туалет, ул.Красноармейская.
6. Неработающий общественный туалет, ул.Маяковского.
7. Неработающий общественный туалет, мик-он Серебрянка-4.
8. Неработающий общественный туалет, мик-он Серебрянка-6.
9. Минское городское управление гостиниц (при условии реструктуризации), ул.Володарского, 6.

---

**РОССИЙСКИЕ ВЕСТИ**

## ВВОЗ ДОЛЛАРОВ В РОССИЮ СОКРАЩАЕТСЯ

С начала 1995 года ежемесячно наблюдается значительное сокращение ввоза наличной валюты в Россию. Так, если в январе банками было доставлено на территорию России 2,6 млрд. долларов, то в марте – уже 1,5 млрд., а в апреле – 0,9 млрд. долларов.

## РОССИЯ ПОСТРОИТ В КИТАЕ СУПЕРДАМБУ

Китай готов привлечь Россию к участию в крупнейшем в мире гидротехническом проекте – сооружении на реке Янцзы гидроузла Санься. Это будет самая большая на планете дамба длиной 1983 метра и высотой 185 метров. Затраты на ее строительство составят 25 млрд. долларов. По словам российских специалистов, строительство Санься займет 17 лет.

## РОСТ РОССИЙСКОГО ТОВАРНОГО ОБОРОТА

В январе-мае 1995 года внешнеторговый оборот России, включая неорганизованную торговлю, осуществляемую физическими лицами, составил 46,9 млрд. долларов, что на 15% выше показателей аналогичного периода прошлого года.

TDN — РИД.

---

**ЭКАНОМІКА**

## КДБ ДАПАМАГАЕ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРЦЫ

81 грузавы аўтамабіль, 17 электрастанцый, 19 шасі аўтамабіляў, 10 шасі прычэпаў і кабелеўкладчык, якія належаць Камітэту дзяржаўнай бяспекі, кіраўніцтва гэтага ведамства мае намер у бліжэйшы час бязвыплатна перадаць міністэрствам лясной гаспадаркі, сельскай гаспадаркі і харчавання.

Гэты крок, як паведамілі ў прэс-службе КДБ Беларусі, выкліканы разуменнем таго, якое цяжкае сёння эканамічнае становішча дзяржавы.

Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.

## НЕ ЎСЕ АТРЫМАЛІ ПРЫВАТЫЗАЦЫЙНЫЯ ЧЭКІ

Сёння 46,2 працэнта беларускіх грамадзян налічаны імянныя прыватызацыйныя чэкі «Маёмасць».

Як паведамілі ў Міністэрстве па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, па стану на 15 чэрвеня 1995 года 49 працэнтаў грамадзян Беларусі звярнуліся ў камісіі з заявамі аб налічэнні ім імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць». 46,2 працэнта грамадзян ужо налічана каля 320 мільёнаў чэкаў, а 28,2 працэнта атрымалі на рукі сертыфікаты на агульную колькасць 207 мільёнаў чэкаў. Дзяржаўнай жа маёмасцю, падрыхтаванай на сённяшні дзень да продажу за чэкі, забяспечаны толькі 93,3 мільёна чэкаў, у тым ліку 79,4 мільёна — рэспубліканскай і 13,9 мільёна чэкаў — камунальнай уласнасцю. Больш чым 66 мільёнаў чэкаў спісаны ўжо са спецрахункаў грамадзян, з іх 26 мільёнаў — на пакупку акцый прыватызаваных прадпрыемстваў, каля 10 мільёнаў — на пакупку акцый СІФ, прададзена больш за 30 мільёнаў чэкаў.

Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.

## СЕРВИС ДЛЯ ДИПЛОМАТОВ -- НА ВЫСШЕМ УРОВНЕ

Недавно создано специализированное госпредприятие под названием «Дипсервис». Учредителем «Дипсервиса» является Управление делами президента Республики Беларусь при участии Мингоскомимущества, Министерства иностранных дел и Минского горисполкома.

Предприятие создано с целью обеспечить благоприятные условия для находящихся в республике дипломатических представительств и консульских учреждений иностранных государств. Как сообщил заместитель управляющего делами МИД Олег Анатольевич Новиков, «Дипсервис» является хозрасчетной организацией. Однако не исключено, что на начальном этапе деятельности потребуется финансирование из средств бюджета либо использование кредита.

Ольга ТАРАСЕВИЧ.

## РАСХОДУЕЦЦА ПАЛІВА, ПРЫЗНАЧАНАЕ ДЛЯ ЗІМЫ

Паводле звестак з Міністэрства энергетыкі і паліва, нягледзячы на цёплы і нават гарачы час года, запас мазуту ў рэзервуарах не папаўняецца, а ўбывае: за першыя 20 дзён чэрвеня ён зменшыўся больш чым на 20 тысяч тон. Так непрадугледжана расходаваць дзяржаўны запас вадкага паліва прымушае суровая неабходнасць — зменшыліся пастаўкі газу з Расіі (8,5 млн. куб. м у суткі пры ранейшых 20 куб. м), не хапае сродкаў на дадатковыя закупкі электраэнергіі за межамі рэспублікі. Пры такіх умовах сфарміраваць неабходны рэзерв на зіму (звыш 1 мільёна тон) будзе вельмі няпроста, нават нягледзячы на катэгарычныя патрабаванні Кабінета Міністраў. Пакуль жа ўвесь дзяржаўны рэзерв топачнага мазуту складае каля паловы неабходнага.

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.

## ПРЫЙДЗЕЦЦА ПЛАЦІЦЬ...

У друку ўжо паведамлялася пра распаўсюджаныя факты крадзяжоў нафтапрадуктаў з расійскага трубаправода, які праходзіць па тэрыторыі Беларусі. Як паведаміў старшы оперупаўнаважаны ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС Беларусі Аляксандр Клопаў, усе факты выкладзены правільна, за выключэннем таго, што сума нанесенай Расіі шкоды перавялічана прыкладна ў 2,4 раза (каля 1 мільярда рублёў, але не расійскіх, а беларускіх). Гэта важная папраўка, паколькі расійскі бок, як паведамлялася, мае намер аднесці суму шкоды на рахунак беларускага доўгу за энерганосьбіты.

Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.

---

**ДЫПЛАМАТЫЯ**

## УЛАДЗІМІР СЯНЬКО СУСТРЭЎСЯ З ПАСЛОМ ТУРЦЫІ

Па ініцыятыве міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Сянько адбылася яго сустрэча з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Турэцкай Рэспублікі Тансу Акандана напярэдадні ад'езду пасла ў Турцыю на кароткі тэрмін. Паводле звестак са знешнепалітычнага ведамства Беларусі, падчас гэтай сустрэчы У.Сянько з жалем адзначыў ахаладжэнне ў апошні час беларуска-турэцкіх адносін, што, на яго думку, не адпавядае інтарэсам дзвюх дзяржаў. Было падкрэслена, што Беларусь разумее вялікае значэнне развіцця сувязяў з Турцыяй, замацавання супрацоўніцтва і ўзаемаразумення. Міністр выступіў за наданне новага імпульсу двухбаковым беларуска-турэцкім адносінам. Кіраўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства перадаў запрашэнне міністру замежных спраў Турцыі наведаць з візітам Беларусь у зручны для яго час.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.

---

**ФОТОРЕПОРТАЖ**





## «ЭЛЕКТРУМ» ПРЕДЛАГАЕТ

Минское производственное предприятие «Электрум» производит телефонные аппараты трех наименований: диспетчерскую связь на 5-10 абонентов, подъездные домофоны, различные детали для телефонных аппаратов. Оказываются услуги населению по изготовлению деталей из металла, оконных решеток, ограждений, металлических дверей для квартир, гаражных ворот, каркасов для теплиц. На территории предприятия, что в Обувном переулке, 12, находится фирменный магазин предприятия, где можно купить продукцию по ценам значительно ниже, чем в государственной торговле.

**НА СНИМКАХ:** заведующая складом готовой продукции Лилия Голубцова упаковывает телефонные аппараты; оконные решетки изготавливают слесари Андрей Курицкий и Сергей Ероцкий; маляр Регина Суровец.

Фото Анатолия БАСОВА.



---

**ПАСЯДЖЭННЕ КАЛЕГІІ**

# «АСОБНЫЯ НЕДАХОПЫ» КАЛАРАЖУ І БРАКЕРАЖУ БУДУЦЬ ЛІКВІДАВАНЫ

Таіса ХАРТАНОВІЧ.

Асноўныя вынікі нядаўняй праверкі арганізацыі харчавання ў дзіцячых садках Мінска, што зрабілі спецыялісты Галоўнага ўпраўлення Службы кантролю Адміністрацыі прэзідэнта: парушэнне рэцэптуры, тэхналогіі прыгатавання страў, недаўкладанне пры парцыяніраванні. Гэтая інфармацыя ўзбудзіла бацькоўскую грамадскасць, хаця амаль нічым не адрознівалася ад вынікаў папярэдніх праверак санітарна-эпідэміялагічных службаў. Відаць, уразіў узровень тых, хто правяраў. Таму рэакцыя і гарадскога ўпраўлення адукацыі Мінгарвыканкама была «на ўзроўні» — пасяджэнне калегіі ўпраўлення, якое адбылося днямі, з адпаведным рашэннем.

Размова на пасяджэнні ішла аб тым, што апошнія тры гады Мінгарвыканкам прыкладаў усе намаганні, каб стабільна існавала дзяржаўная сістэма грамадскага дашкольнага выхавання. За гэты час былі прыняты шматлікія рашэнні сесіяй гарсавета і выканкамам. Менавіта гэтыя рашэнні дапамагаюць і гарупраўленню адукацыі, і райаддзелам падтрымліваць на ўзроўні ўсе дашкольныя ўстановы горада, нягледзячы на складаныя эканамічныя ўмовы. Нават ведамасныя садкі, якія бядуюць як ніхто, маюць бесперабойнае забеспячэнне харчаваннем дзякуючы пяціпрацэнтнаму пазабюджэтнаму фонду. Так па стану на 1 мая гэтага года з 79 прадпрыемстваў горада, якія маюць па балансе дашкольныя ўстановы, 72 атрымлівалі датацыю з гэтага фонду.

Увогуле, як ні парадаксальна, але менавіта ў гэты цяжкі час у садках выконваюцца натуральныя нормы на ўсе прадукты. У гэтым годзе цалкам сталі выконвацца заяўкі на ўсе прадукты харчавання: мяса, птушку, рыбу, малочныя вырабы.

Райаддзелы адукацыі сістэматычна кантралююць і аналізуюць стан арганізацыі харчавання, а пры неабходнасці нават з дапамогай прадстаўнікоў раённых СЭС, дробнааптовых баз. Разглядаюцца гэтыя пытанні і на пасяджэннях выканкамаў, дэпутацкіх камісій.

– Аднак, — як адзначыла ў сваім выступленні начальнік аддзела дашкольнага выхавання С.М.Вароніна, — пры ўсіх станоўчых момантах, аналіз арганізацыі харчавання ў дзіцячых садках па горадзе раскрыў праблемы, што звязаны з несвоечасовасцю фінансавання і вялікай запазычанасцю перад дробнааптовымі і пладова-агародніннымі базамі.

Гэта, аказалася, датычыць двух раёнаў сталіцы: Маскоўскага і Фрунзенскага. Значныя перабоі ў забеспячэнні садкоў бульбай, садавінай прывялі да парушэння сбалансаванасці харчавання. Вялізная запазычанасць па Фрунзенскаму раёну дробнааптовай базе — амаль 2 мільярда рублёў, пладова-агародніннай — 100 мільёнаў рублёў. Па Маскоўскаму раёну адпаведна — 1 мільярд і 100 мільёнаў рублёў.

А запазычанасць ведамстваў, якія маюць свае садкі, базе Партызанскага раёна на момант праверкі склала 16,5 мільярда рублёў.

Святлана Міхайлаўна праінфармавала і аб тым, што на працягу двух апошніх гадоў з перабоямі забяспечваюцца дзіцячыя садкі аскарбінавай кіслатой для С-вітамінізацыі страў. Таксама пра тое, што часам з-за адсутнасці кантролю за закладкай прадуктаў пры гатаванні, за правільным парцыяніраваннем парушаліся якасць і каларыйнасць ежы.

Уразіла прыведзеная лічба з дакументаў вясновай прэзідэнцкай праверкі. Працэнт нестандартных страў у дзіцячых дашкольных установах горада па выніках мінулага года склаў 74 працэнты.

На пасяджэнні калегіі ўпраўлення прыводзіліся шматлікія факты парушэння ўмоў захавання прадуктаў, адсутнасці бракеражу прадуктаў, якія хутка псуюцца. Называліся канкрэтныя адрасы парушальнікаў. Іх цэлы спіс.

У асноўным абвяшчаліся абагульненыя даныя за мінулы год. Але, здаецца, прагноз на гэты год не будзе аптымістычным, бо эканамічная сітуацыя толькі пагаршаецца.

Іншая справа, пагадзіліся ўсе прысутныя, ніякія эканамічныя цяжкасці не здымаюць адказнасці з кіраўнікоў раёнаў, саміх дашкольных устаноў за арганізацыю, напрыклад, санітарна-эпідэміялагічнага рэжыму ў садках. Менавіта гэта абмяркоўвалася і напярэдадні калегіі за «круглым сталом», куды былі запрошаны і прадстаўнікі Службы кантролю Адміністрацыі прэзідэнта і гарадскога цэнтра санітарыі і эпідэміялогіі, раённых СЭС, гарадскога ўпраўлення аховы здароўя. Тады былі выпрацаваны агульныя падыходы ў аналізе харчавання.

Цікава было пачуць і такую прычыну хібаў у харчаванні дзяцей: пасля спынення работы курсаў павышэння кваліфікацыі пры 221 кулінарным вучылішчы прыкметна знізіўся прафесійны ўзровень павароў.

Гэта пацвердзілі праверкі і ўпраўлення адукацыі, і гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, і прэзідэнцкай Службы кантролю. Яны адзначылі, што работнікі харчблокаў, медыцынскія сёстры, падобна, не знаёмы добра з нарматыўна-тэхналагічнай дакументацыяй. Дагэтуль многія садкі, асабліва ведамасныя, не маюць тэхналагічных карт прыгатавання ежы альбо, можа, ігнаруюць іх.

Такім чынам, калегія прызнала шматлікія памылкі, прарэхі ў арганізацыі харчавання ў дзіцячых садках Мінска і прыняла рашэнне. У ім, у прыватнасці, загадчыкам райаддзелаў адукацыі рэкамендавана сістэматычна разглядаць пытанні харчавання дзяцей у садках, незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці, праверыць наяўнасць ва ўсіх садках нарматыўна-тэхналагічнай дакументацыі. Гарупраўленню адукацыі належыць дапамагчы аднавіць сістэму курсавой перападрыхтоўкі работнікаў харчблокаў; разам з упраўленнем аховы здароўя, гарадскім цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі распрацаваць метадычныя рэкамендацыі па арганізацыі харчавання дзяцей у дашкольных установах.

Магчыма, можна было б спадзявацца, што дабрабыт садкоў пры, як кажуць, агульных намаганнях і будзе паляпшацца. Тым больш з «заахвочваннем» з боку Адміністрацыі прэзідэнта, але абставіны могуць прадыктаваць свой лейтматыў: «Не до жиру, быть бы живу». Бо ўзнікла рэальная сітуацыя пагрозы, калі можа пасці ўся гадамі адладжаная сістэма дашкольных устаноў, дарэчы, адна з самых прагрэсіўных нават у свеце. Добра было б, каб прэзідэнцкая Служба кантролю наступным узяла пад кантроль менавіта гэтае пытанне.

